# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 24 (38) 13—19 жніўня 1993 г. Кошт 5 рублёў


**СКАНДАЛЫ З ЛІТАМІ.** Грашовыя непаразуменьні ў Летуве.

**АГЕНТЫ ЦРУ** на гарадзенскім вакзале? Аб гэтым гавораць у Менску.

**ГАРАДЗЕНСКАЯ КАПЭЛА.** Мясцовыя праблемы высокай музыкі.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕПЕРАДАЧ** на тыдзень. Менск — Макcва — Варшава.

## Да нас едзе прэзідэнт

У хуткім часе наш горад наведае прэзідэнт Міжнароднага таварыства дружбы й добрай волі доктар Станлэй Дрэйк. Ён прыедзе з мэтай прыняць удзел у працы міжнароднай канфэрэнцыі эспэрантыстаў. Доктар Дрэйк валодзе пачэсным атэстатам «Чалавека года», зьяўляецца заснавальнікам міжнароднай Асацыяцыі Унівэрсітэтаў, якой кіруе з 1967 году. Шаноўны госьць пад час свайго візіту пляную заснаваць філію Таварыства дружбы й добрай волі (скарочана МТДДВ) у Горадні.

## На сустрэчу з Папам Рымскім

Днямі ў КАФ «Бацькаўшчына» і маладзёжным клюбе «Паходня» распачалася падрыхтоўка культурнай праграмы з нагоды прыезду ў Вільню Папы Іаана Паўла II. Плянуецца, што разам з паломнікамі на сустрэчу паедзе хор старадаўняй царкоўнай музыкі «Паходня».

Кіраўніца хору В. Додзік на запыт карэспандэнта «Пагоні» сказала: «Мы хочам паехаць да Вільні самастойнай адзінкай. Праўда, жадаем у склад нашай дэлегацыі запрасіць ксяндза Анатоля з Фарнага касьцёлу. Робім гэта таму, што ў Вільні гарадзенскі ксёндз адправіць імшу на беларускай мове ў суправаджэньні нашага хору. Спадзяемся, што паслухаць яе пажадае сам Папа Рымскі.

## На лодцы па бульбяным полі

Не змаглі ўратаваць ад затапленьня бульбяныя палі калгаса імя Сьвердлава Пінскага раёна дзьве магутныя гідрамэліярацыйныя насосныя станцыі. У самы крытычны момант яны выйшлі са строю. Цяпер, каб паглядзець бульбянішча, калгасным спэцыялістам даводзіцца веславаць па полі на лодках. На думку тых жа спэцыялістаў, ураджай бульбы сабраць можна. Але да захаваньня клубні ня будуць годныя. Таму іх прыдзецца адразу адправіць на перапрацоўку ці на харч жывёле. Зараз у раёне думаюць, дзе набыць бульбы на насеньне. Сваю дапамогу ў аднаўленьні насеннага фонду прапануюць калгасам Піншчыны аграрыі з Польшчы й Летувы.

**Г. У.**

## Тыдзень на зямлі Беласточчыны

З 16 жніўня гарадзенскія праваслаўныя вернікі распачынаюць тыднёвую вандроўку па тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва Польшчы. Мэты вандроўкі — знаёмства гарадзенскіх пілігрымаў з традыцыямі праваслаўя на Беласточчыне, наведваньне сьвятых храмаў, маральная падтрымка беларусаў гэтага краю і збор аб ´ектыўнай інфармацыі аб адносінах афіцыйных уладаў да патрэбаў праваслаўных вернікаў польскай дзяржавы.

**Г. У.**

## Літ і «тры грошы»

Калі хтосьці недарэчы ўмешваецца ў справу, кажуць: «прыткнуў свае тры грошы». Папулярная газэта «Lietuvos ritas» актыўна ўмяшалася ў справу друкаваньня летувіскай нацыянальнай валюты — літаў, але ейныя «тры грошы» аказаліся якраз нялішнімі. Скандал пачаўся 20 лютага 1992 года артыкулам «Літаў няма і ня будзе!». Пасьля таго газэта няраз вярталася да гэтае тэмы й надрукавала агулам 40 старонак тэксту. Дзякуючы гэтым выступленьням была праведзена экспэртыза якасьці літа, казне рэспублікі былі вернутыя 300 тыс. даляраў, а галоўнае — грамадзтва пабачыла сапраўднае аблічча бюракратыі сваёй маладой дзяржавы.

Паўгады рэдакцыя судзілася з Летувіскім банкам з-за публікацыяў пра літы. І толькі нядаўна банк адклікаў свой зыск, а кіраўнікі ўраду й рэспубліканскага банку даслалі ў рэдакцыю «LR» наступную заяву:

«Камісія, заснаваная 12.05.1993 урадам Летувіскай Рэспублікі дзеля праверкі дакумэнтаў на заключэньне й выкананьне дамовы аб друкаваньні літаў, высьветліла, што дамова аб друкаваньні літаў, падпісаная Летувіскім банкам і ўрадам рэспублікі, ў праваых і тэхнічных адносінах складзена некваліфікавана, з парушэньнем эканамічнай абароненасьці казны Летувы, літы недастаткова абаронены ад падробкі... так, у банкнотах адсутнічае ахоўная нітка, спосаб друку нізкага ўзроўню, вадзяныя знакі няякасныя...

З прычыны кепскай арганізацыі вытворчасьці літаў і слабога кантролю нанесены маральныя ды матэрыяльныя страты. З гэтай жа прычыны са спазьненьнем была ўведзена нацыянальная валюта. З улікам эканамічнай сітуацыі ў краіне літ быў уведзены не ў самы лепшы час. Распараджэньнем ураду ў 1992 г. была праведзена экспэртыза якасьці банкнотаў, урад і Летувіскі банк прыняў рашэньне тэрмінова аддрукаваць новыя больш абароненыя банкноты вартасьцю 10, 20 і 50 літаў. Канчатковыя высновы аб памерах нанесенай казьне страты вызначаць пракуратура рэспублікі й суд».

**Рэдакцыя «Пагоні» прапануе сваім чытачам скарочаны пераклад адной з папярэдніх публікацый у «Lietuvos ritas».**

**(Працяг на 2-й стар.).**



**Фатаграфавала А. АЛАВА.**

● Рэфлексіі

## Чакаць прыдзецца доўга

Калі кіроўца тралейбуса аб ´явіў на беларускай мове наступны прыпынак, некаторыя пасажыры ветла заўсьміхаліся, але былі й такія, каму гэта было недаспадобы.

Нейкая жанчына, расчырванеўшыся, даводзіла, што беларуская мова — непрыгожая, а яе вось бяруць ды сілком людзям накідаюць. «Я сама беларуска, а мовы ня ведаю й ведаць не жадаю»,— працягвала жанчына. Мужчына ж, наадварот, не згаджаўся з кабетай, аргумэнтаваў так: каб тут умовы стварылі ня горшыя, чым ў Амэрыцы, то і я, і ты вывучылі б беларускую мову, а так ляскацiш на ўвесь тралейбус бяз толку.

Мяне не зьдзівіла размова, а наадварот, выклікала сьмех. Бо дзе яшчэ такое пачуеш, як толькі ня ў нас на Беларусі. Свабода, адным словам,— кажы, што хочаш, рабі, што хочаш.

Але сьмешнага тут мала, а вось сур ´ёзнага крыху ёсьць. Выходзіць, што калі Беларусь будзе квітнеючай як у эканамічным, так і ў культурным жыцьці, яе мовай, традыцыямі ня будуць грэбаць. Паўстае пытаньне: а хто ж, як ня беларусы, павінны адбудаваць, адрадзіць сваю дзяржаву? Стварыць на ёй зямны рай? Аматары тралейбусных дыскусій, як відаць з размовы, не жадаюць сьпяшацца гэта рабіць, а наадварот, чакаюць нейкага выратавальніка, які прыйдзе і ўсё зробіць.

На жаль, людзей з такімі паглядамі пакуль што большасьць ў нашай дзяржаве. Таму хочацца ім нагадаць, што чакаць на Беларусі другой Амэрыкі ім прыйдзецца яшчэ доўга.

**Г. ЛІСОЎСКІ.**

## Вайскоўцам быць — нядрэнна жыць...

Зараз вядзецца шмат гаворкі вакол праблемаў вайскоўцаў. Галоўныя аргумэнты — нізкі заробак, неўладкаванасьць, безпэрспэктыўнасьць. Але ці ўсё так на самой справе?

Як вынікае са сьпісаў дадатковага пайка афіцэраў ды прапаршчыкаў Гарадзенскага памежнага атраду, існаваньне не такое ўжо і дрэннае. У сьпісе такія дэфіцыты як пячонка, зялёны гарошак, алей, тушонкі са сьвініны і ялавічыны, разнастайныя гатункі сьвежамарожанай рыбы. Атрымаць дадатковы паёк вайскоўцы могуць не радзей аднаго разу ў месяц.





# ГРАМАДЗТВА

## Агэнты ЦРУ на гарадзенскім чыгуначным вакзале!

Калі служба інфармацыі гарадзенскага чыгуначнага вакзалу зрабіла абвестку на дзяржаўнай мове, што «цягнік № 668 праз тры мінуты адпраўляецца з трэцяй пуці», дзяўчаты, якія стаялі побач са мною, засьмяяліся і сказалі, што такія вось аб 'явы толькі шкодзяць беларускай мове і гонару, бо тыя, хто іх дае, наўрад ці гэтую мову ведаюць. Мне захацелася запярэчыць ім, маўляў, усё ж такі прагрэс, хоць і нягегла, але ж гучыць беларускае слова. Але чым даўжэй стаяў я на пэроне і слухаў абвесткі, тым больш сорамна мне рабілася. У абвестцы, што ізноў пачулася ў дынаміку, замест «хуткі» прагучала «скоры», а цягнік з Вільні замест міжнароднага назвалі міжгароднім.

Калі адыходзіў з вакалу, пачуў чарговы варыянт «непанятнага языку». Мне падумалася, што можа й маюць рацыю народныя дэпутаты, калі з высокай трыбуны ў Менску заяўляюць, што нашае грамадзтва перапоўнена агэнтамі ЦРУ і шматлікімі іх памагатымі з іншых шкодніцкіх арганізацыяў.

## Якой дзяржаве служыць?

Гэтую падзею ў нашым імклівым жыцьці можна было б і абмінуць, але некаторыя акалічнасьці гавораць за тое, каб зьвярнуць увагу на непрыкметнае мерапрыемства.

У канцы чэрвеня адбыўся выпуск юрыстаў-завочнікаў Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэта. На сьціплай урачыстасьці былі ўручаны доўгачаканыя дыплёмы.

Калі прарэктар унівэрсітэта прафэсар М. Васілючык (дарэчы, адзіны, хто выступаў на дзяржаўнай мове) даў наказ добрасумленна працаваць на карысьць маладой незалежнай дзяржаве й ўнесьці свой уклад у разьвіцьцё беларускай юрыдычнай навукі, якая была адзначана ў Эўропе такім помнікам права, як Статут Вялікага Княства Літоўскага, то наступны прамоўца гаварыў зусім іншае. Беларускай дзяржавы, на думку навукоўца, яшчэ фактычна няма, а беларусізацыя — гэта заўчасны працэс, і Расея для Беларусі — самы надзейны партнер.

Можна было б палічыць гэты выступ недарэчнасьцю. Але ж ці гэта так на самой справе? Усім вядома, што на юрыдычным факультэце сёньня працуюць прафэсіяналы высокага ўзроўню. Многія прыехалі ў Горадню з іншых рэспублік былога Саюзу. Здавалася б, юрысты такога кшталту павінны зразумець звычайную акалічнасьць, што кожная дзяржава ўсяляк умацоўвае свой сувэрэнітэт, і яе грамадзяне з павагай ставяцца да дзяржаўнай мовы. Але такая юрыдычная норма, як павага закону, ня ўсім даспадобы. Дагэтуль выкладчыкі заяўляюць, што хутчэй пакінуць сьцены унівэрсітэту, чым будуць выкладаць прававую навуку на беларускай мове. Ёсьць і такія, дарэчы, вельмі паважаныя сьвяцілы правазнаўства, якія лічаць увядзеньне беларускай мовы штучным працэсам, маўляў, «зачем он нужен, этот белорусский язык, вот русский — это совершенно другое дело. На этом языке творили Пушкин, Гоголь, Достоевский».

На думку гэтых навукоўцаў, Купала й Колас наўрад ці дасягнулі ўзроўню клясыкаў сусьветнай літаратуры, а таму й нельга штучна «навязывать» беларускую мову.

Вось такія справы, шаноўнае спадарства. Быццам бы й не было ставутай гісторыі старажытнай беларускай дзяржавы, разьмешчанай якраз у самым цэнтры Эўропы, выдатных яе дзеячоў Ф. Скарына, В. Цяпінскага, С. Буднага, Л. Сапегі. Сорамна, вельмі сорамна, паважаныя праўнікі. Можа, замест таго, каб спрачацца, чыя ж усё-такі мова лепшая, узяць ды й вывучыць мову той дзяржавы, у якой жывеш.

**Г. СЫСОЙ,**
**сакратар камісіі Гарадзенскага гарадзкога Савета па культуры**

## «Складваюць» крылы

Недахоп паліва напалову скараціў паветраныя рэйсы гарадзенскага атрада грамадзянскай авіяцыі. Пацярпелі ў першую чаргу тыя, хто аддае перавагу хуткасьці падарожжа.

Дарэчы, яшчэ раней паставілі сваіх «паветраных коней» да ангараў лётчыкі сельскагаспадарчай авіяцыі.

**Г. У.**

## Цэнтр Усходняй Эўропы

Дзяржавы Цэнтральнай і Усходняй Эўропы ў апошні час вельмі дасьціглна цікавяцца сваімі ўсходнімі суседзямі — Беларусьсю, Украінай, краінамі Прыбалтыкі. Для тых дзяржаваў, якія ўжо маюць пэўны вопыт існаваньня ў варунках капіталістычнага гаспадараньня, рэспублікі былой савецкай імпэрыі ўяўляюць сабой неблагі рынак збыту тавараў, якія пакуль што ня могуць канкураваць з прадукцыяй заходніх фірмаў, дый палітычныя сітуацыі адкрываюць магчымасьць для больш цесных сувязяў ня толькі ў эканоміцы, але ў іншых накірунках. Ня толькі палітыкі, але й простыя людзі зацікаўлены ў тым, каб нашыя народы як мага бліжэй ведалі адзін аднаго. А гэта вымагае пэўных высілкаў.

Амаль два з паловай гады таму ў Польшчы быў створаны Цэнтр Усходняй Эўропы. Гэтая арганізацыя зьяўляецца структурным падразьдзяленьнем міністэрства замежных справаў. У склад Цэнтра ўваходзяць два аддзелы: аналітычны й інфармацыйны. Асноўная задача аналітычнага аддзелу — аналіз эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краінах былога СССР. Аналізуюцца больш за 100 газэтаў, якія дасылаюцца сюды з усяго СНД, апрацоўваюцца паведамленьні агэнцтваў, тэлебачаньня, радыё. Як вынік гэтай працы — выданьне аналітычнага месячніка, у якім друкуюцца артыкулы й камэнтары да найбольш значных падзей, што адбываюцца ў маладых дзяржавах на усход ад Польшчы. Інфармацыйны аддзел займаецца толькі зборам інфармацыі, выкарыстоўваючы ў асноўным матэрыялы тэлеграфных агэнцтваў і радыё. Гэты аддзел выдае малы штодзённы бюлетэнь у першую чаргу для карыстаньня ў міністэрстве замежных справаў і ў канцылярыі прэзідэнта.

Увогуле спажыўцамі Цэнтра зьяўляюцца польскі Сэйм, канцылярыя прэзідэнта, прэм 'ер-міністр, мноства міністэрстваў (у першую чаргу міністэрства замежных справаў), навукоўцы, савэтолагі, амбасады розных краінаў, што знаходзяцца ў Варшаве, студэнты, што працуюць у накірунку вывучэньня ўсходніх дзяржаваў . Кожны афіцыйны альбо дзелавы візіт прадстаўнікоў польскай дзяржавы на Усход рыхтуецца з дапамогай супрацоўнікаў Цэнтра. Так, напрыклад, інфармацыю для паездкі Ханны Сухоцкай на Беларусь зьбіралі на працягу некалькіх месяцаў, прычым Беларускі аддзел працаваў ледзь ня цэлымі суткамі.

А ўзначальвае Беларускі аддзел Цэнтра Усходняй Эўропы Ганна Энгелькінг — маладая абаяльная жанчына. У пакоі, дзе месьціцца беларуская суполка (4 супрацоўнікі), вісіць вялікая падрабязная мапа нашае краіны. Вельмі ўтульна. Ганна доўга распытвае пра Беларусь. Яна асабіста спэцыялізуецца на культурна-рэлігійных аспэктах жыцьця й таму шмат пытаньняў пра культурныя стасункі беларусаў і палякаў на Гарадзеншчыне, адносінах каталікоў, праваслаўных і вуніятаў. Супрацоўнікі Беларускага аддзелу (у ім, між іншым, працуе вядомая беларускамоўная бардэса Эля Бэзюк) даволі часта наведваюць Беларусь, запрашаюцца на ўсе значныя сьвяткаваньні й мэрапрыемствы ў нашай рэспубліцы. Аддзел трымае цесную сувязь з беларускай амбасадай у Польшчы, падтрымлівае добрыя адносіны з Уладзімірам Сянько, паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча. У аддзеле ствараецца кампутарная база інфармацыі, аснову якой складаюць матэрыялы «Советской Белоруссии», «Зьвязды», «ЛіМу», «Рэспублікі», «Народнай газэты». Найбольш значныя артыкулы поўнасьцю укладаюцца ў кампутар, некаторыя захоўваюцца са значным скарачэньнем. Больш складана атрымліваць інфармацыю з беларускага тэлебачаньня й радыё. Праўда, спадарыня Ганна адзначыла, што іх зацікавілі «Радыёфакт» і перадачы «Беларускай маладзёжнай».

У апошніх аналітычных бюлетэнях, што выдаў Цэнтр, надрукаваныя матэрыялы аб нацыянальных меньшасьцях на Беларусі, аб вуніятах, аб праблеме ўласнасьці на зямлю ў нашай дзяржаве, зараз рыхтуецца вялікі матэрыял пра візіт С. Шушкевіча у ЗША.

Найбольш значныя аддзелы Цэнтра Усходняй Эўропы — беларускі, расейскі, украінскі й летувіскі. Але апошнім часам шмат увагі надаецца сярэднеазіяцкім краінам, выходзяць цэлыя месячнікі пад агульнай назвай «За Уралам», у якіх разглядаецца становішча ў Казахстане, Узьбекістане, Таджыкістане ды й іншых краінах гэтага рэгіёну.

Цэнтр ужо мае пэўныя здабыткі. У пэрспэктыве ёсьць задума выдаваць салідны агульнапольскі савэталягічны часопіс. А пакуль што Цэнтр Усходняй Эўропы запрашае да супрацоўніцтва навукоўцаў, гісторыкаў, палітолагаў, культуролагаў, якія маглі б абгрунтавана пісаць пра Беларусь. Таму спадарыня Ганна проста папрасіла праз нашую газэту паведаміць адрас:

Ośrodek Studiow Wschodnich
Koszykowa 6A
00-564 Warszawa

**С. ЛАЎНІК.**

## Скандалы з літамі — хто прамяняў залаты ланцужок на шкляныя пацеркі?

(Пачатак на 1-й стар.).

Напружана працуе ўрадавая камісія якая правярае дакумэнты на вытворчасьць, фінансаваньне й выраб літаў. Пакуль не дайшло, каб назваць імёны ўсіх чыноўнікаў, з чые ласкі была парушана дамова паміж Летувіскім банкам, урадам Летувы і фірмай US Banknote Corporation, і такім чынам пацярпелі інтарэсы Летувы. Частка адказнасьці за парушэньне кантракту, як сьведчаць дакумэнты, кладзецца на замежных партнёраў, а таму спатрэбіцца дапамога заходніх сьведкаў.

Гэтым разам прадаставім асобныя вытрымкі з апублікаванага 23 жніўня мінулага года ў газэце «Нью-Ёрк Таймс» артыкула Дэвіда Бэррыбай пад назваю «Фірмы, што робяць грошы на грошах». У гэтай публікацыі дастаткова шырока апісана фірма US Banknote Corporation, ейныя інтарэсы й спосабы пошукаў новых кліентаў. Як сьцьвярджае ў сваім артыкуле Д. Бэррыбай, многія дзяржавы друкуюць сваю валюту не ў прыватных, а ў дзяржаўных тыпаграфіях.

Новыя дзяржавы, якія толькі пачынаюць свой самастойны шлях, аддаюць перавагу прыватным тыпаграфіям. І гэта — добры знак для тых фірмаў, якія дагэтуль займаліся друкаваньнем акцыяў і каштоўных папераў.

Попыт на каштоўныя паперы зьніжаецца, паколькі ўсё часьцей акцыі набываюць і прадаюць праз кампутары. Гэтым фірмам даводзіцца шукаць новую справу. Ня маючы дастатковага вопыту, яны бяруцца друкаваць грошы для краінаў Азіі, Лацінскай Амэрыкі і для новых дзяржаваў. Гэтак здарылася і з вядомай у Амэрыцы фірмай, што спэцыялізуецца на друкаваньні каштоўных папераў — US Banknote Corporation.

Карэспандэнт шукае ў сваім артыкуле адказ на пытаньне, якім чынам гэтай фірме ўдалося выйсьці на заказ па друкаваньню літаў. Д. Бэррыбай адзначае, што карпарацыя мае каманду купцоў, што аб 'ехалі ўвесь сьвет, каб знайсьці заказчыкаў. Паводле словаў прэзыдэнта карпарацыі спадара Крэйтмана, іхныя пошукі далі плён — фірма атрымала заказы ад Летувы і часткова ад Эстоніі. Як гэта ўдалося? «У рэшце рэшт — дзякуючы старому добраму амэрыканскаму прадпрымальніцтву» — сказаў журналіст прэзідэнт US Banknote Corporation.

Але, падобна, «добрае, старое амэрыканскае прадпрымальніцтва» — вынаходніцтва ня толькі амэрыканскае. Нашыя чыноўнікі таксама мелі някепскі досьвед паездак у Маскву з сакваяжамі кілбас і каньяку, за каторыя й атрымоўвалі «дадатковыя фонды ды ліміты».

Калі цяпер пытаюцца, чаму такое адбылося з літамі, каму гэта было выгадна, віноватых звычайна шукаюць сярод сваіх. Аднак у бізнэсе, як правіла, пераплятаюцца мноства інтарэсаў. Таму вельмі важна, каб дзяржаве служылі чыноўнікі высокай кваліфікацыі і гэткай жа высокай маралі, каб ня мелі спакусы й не разьменьвалі залаты ланцужок на шкляныя пацеркі.





# Лекавая эпапея прафэсара Парамея

Калі чатырнаццацігадовы Мікола Сідорчык убачыў на калгасным полі бочкі з надпісам «Аміячная вада», хлапчуку захацелася паспытаць, што ж гэта такое. Хлопец адчыніў вечка й адразу ж у твар секанўў бела-жоўты струмень. Ад нясьцерпнага болю падшпарак закрычаў. На крык зьбегліся людзі, дапамаглі ўзьняцца з зямлі. Мікола адкрыў вочы, але сьвет перад ім быў нязвыклы, змрочны.

На легкавіку Міколу павезьлі ў Гарадзенскі вабласны клінічны шпіталь, дзе мэдыкі паставілі дыягназ: апаленьне верхніх ворганаў дыханьня другой ступені, апаленьне твару і вачэй трэцяй ступені. Родныя Міколы з жахам глядзелі на яго апаленае аблічча, баючыся сказаць хлопцу праўду. На іх дзіва, ужо праз восем дзён апёкі Міколы поўнасьцю загаіліся, а сам ён, вясёлы й бадзёры, выпісаўся са шпіталя.

Што гэта, цуд ці нейкае новае дасягненьне мясцовай навукі паставіла Міколу Сідорчыка на ногі?

Так, гэта ня цуд, а новы лек, які мае назву «антыаміяк», зрабіў сваю справу. Некалькі год таму чалавек з такімі апёкамі, як у М. Сідорчыка, застаўся б на ўсё жыцьцё інвалідам. Дзякуючы «антыаміяку», які распрацаваны групай навукоўцаў катэдры афтальмалогіі Гарадзенскага дзяржаўнага мэдінстытута, усе выпадкі як зьнешняга, так і ўнутранага апаленьня пасьпяхова лечацца ў тэрмін семвосем дзён.

Уладзімір Трафімавіч Парамей, кіраўнік гэтай навуковай групы, падрабязна распавёў пра незвычайны лек.

— Праблема апэратыўнага лячэньня тэрмахімічных апаленьняў паўстала ў Горадні з часоў зьяўленьня хімкамбіната. Мы заўважылі, назіраючы апаленых аміякам, што іх хвароба актыўна паддаецца лячэньню хімічнымі прэпаратамі. Зрабіўшы такое адкрыцьцё, зразумелі, што трэба шукаць звышмоцны сродак. На пачатку зьвярнуліся да саміх хімікаў за фінансавай дапамогай. Нас зразумелі й дапамаглі сродкамі. Маючы матэрыяльную базу, аб ´ядналі свае намаганьні з цяпер ужо нябожчыкам Ю. М. Астроўскім. Менавіта на базе яго навукова-дасьледчага інстытута й была распрацавана тэхналёгія вытворчасьці, хімічны склад і г. д. У выніку сумяшчэньня разнастайных хімічных і біялагічных кампанэнтаў шаснаццаць год таму створаны лекавы прэпарат цудоўнай гаючай сілы.

**— Калі ласка, раскажыце пра склад лека крыху падрабязней.**

— На жаль, не магу, бо яшчэ дагэтуль наш «антыаміяк» не зафіксаваны ў нататніку фармакалёгіі як лек.

**— Чаму так!**

— Ня ведаю. Відаць, міністэрству аховы здароўя не патрэбны здаровыя людзі, бо ня будзе тады каго ахоўваць.

**— Якія рабіліся спробы, каб зарэгістраваць гэты лек!**

— Адразу ж у 1977 годзе мы зьвярнуліся ў Маскву ў камітэт па патэнтах. Праз месяц ці крыху болей атрымалі патэнтнае пасьведчаньне на 20 год. З ім пачалі хадзіць па розных мэдыцынскіх і фармакалягічных установах. Усе пацiскалі нам рукі, называлі вынаходніцтва адкрыцьцём дзесяцігоддзя. Але справа далей паціску рукі не рухалася.

**— Скажыце, дзе у гэты час Вам удавалася вырабляць «антыаміяк»!**

— У Гарадзенскім інстытуце біяхіміі. Праўда, невялічкімі партыямі, паколькі лекам карысталіся толькі ў вабласной клініцы.

**— Зараз, калі наша рэспубліка стала незалежнай дзяржавай, можа варта паспрабаваць дабіцца сэрыйнага выпуску вашага прэпарату!**

— Так, Вы маеце рацыю. Трэба сьпяшацца, бо тэрмін патэнту скончыцца праз чатыры гады. Я ж у свой час, па недарэчнасьці, падаў хімічны склад свайго вынаходніцтва да некалькіх НДІ фармакалёгіі, спадзяваўся, што яны дапамогуць. Зараз, калі будзем сядзець на месцы, то абавязкова дачакаемся, што хтосьці зарэгіструе нашае вынаходніцтва як сваё.

**— Можа, зьвярнуцца да замежных фармакалягічных цэнтраў!**

— У свой час я меў стасункі з адной нямецкай фірмай, але і ў іх, каб зарэгістраваць вынаходніцтва, трэба чакаць ня менш трох гадоў. Сёлета нас знайшлі японцы. Думаю, што з іх дапамогай недарэчныасьць будзе выпраўлена.

**Што ж, паверым і мы ў японскую дзелавітасьць. Можа, з іх дапамогай вынаходніцтва прафэсара У. Т. Парамея ў рэшце рэшт будзе прынята навуковым сьветам.**

**Г. АСТРОЎСКІ.**



**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

# Вам працягваюць руку дапамогі

Днямі ў адной з цэнтральных газэт давялося чытаць інтэрв ´ю з французскім паслом на Беларусі спадаром Клодам Жаліфам. Не выходзіць з галавы адна яго думка, дзе ён кажа, што Беларусі найперш патрэбна гуманітарная дапамога, але не харчы, паколькі краіна мае сваю і даволі нядрэнную сельскую гаспадарку, якую, праўда, патрэбна разьвіваць, а лекі, мэдыцынскае абсталяваньне, усё, што дапаможа справіцца з чарнобыльскай бядой. І гэта — найперш, падкрэсьлівае француз.

Цяжка нават уявіць, каб чалавек эўрапэйскай культуры мог падумаць інакш: ні танкі, самалёты, станкі, каўбаса, а здароўе чалавека. Тое, што лічыцца самым вялікім багацьцем любой нацыі.

Як проста, але яшчэ і як пафілязофску ў дачыненьні да нашае краіны.

Я не выпадкова ўзгадаў гэтую думку эўрапэйскага пасла, бо далейшы мой аповяд таксама датычыць гэтае тэмы. І спадзяюся ў інфармацыйным плане шмат каму прыйдзецца дарэчы. Папросту патрэбна нарэшце уцяміць, што здароўе ўсяго нашага народа залежыць ад кожнага з нас паасобку.

Якраз год таму ў Горадні зусім выпадкова давялося пазнаёміцца з людзьмі, якія без усякай складанай мэдыцынскай тэхнікі займаюцца лекаваньнем людзей ад страшэнных хваробаў нашага часу: алкагалізму, паленьня, наркаманіі і залішняй вагі, ад таго, што так значна скарачае нашае і так кароткае жыцьцё. Праўда, напачатку мяне ўразілі болей самі лекары сваёй незвычайнай здольнасьцю, а толькі потым, з часам, я ўцяміў чаго вартая іх праца. На працягу года я хадзіў да іх на сеансы, калі яны наведвалі наш горад, цікавіўся, сачыў за работаю, гутарыў з пацыентамі, вывучаў іх мэтад.

За гэты год склаліся нейкія пэўныя ўражаньні, адносіны і, вядома, мне хацелася б апавядаць аб гэтым і сваім чытачам. Магчыма каму-небудзь гэта прыйдзецца якраз да часу, дапаможа зьмяніць свой лёс, а кагосьці папросту зацікавіць.

Найперш, праўда, хачу агаварыцца, што наўмысна не стаў нічога пісаць аб шкодзе алкаголю, паленьня, наркаманіі. Разумею, што нічога новага не адкрыю гэтым. Ды і, па праўдзе, ужо не знаходзіцца слоў, каб зноў казаць аб тым, як гінуць людзі, трацяць свае жыцьці, псуюць іх сваім родным і блізкім, як, урэшце, церпіць ад гэтага ўсё чалавецтва. Гэта вельмі вядома, на жаль...

Больш за сорак гадоў таму Аляксандр Раманавіч Даўжэнка, цяпер ужо вядомы і прызнаны лекар, распрацаваў унікальны мэтад лекаваньня ад алкагалізму і паленьня. Зараз гэта вельмі проста ўспрымаецца, аднак у тыя гады, за бальшавікамі, гэтаму чалавеку давялося патраціць шмат нэрваў і здароўя, каб дамагчыся права лекаваць людзей. Сапраўдны лекар і чалавек, Аляксандр Раманавіч (дагэтуль жыве ў Фэадосіі), здолеў пераступіць не толькі штучныя партыйныя і бюракратычныя бар ´еры, але і ад дрэнных звычак за сваю мэдыцынскую дзейнасьць новым мэтадам ён пазбавіў больш за сто тысяч чалавек.

З Беларусі першай вучаніцай А. Р. Даўжэнкі стала Сьвятлана Львоўна Данская, аб якой зараз ведаюць ня толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Крыху пазьней такога ўзроўню кваліфікацыю атрымала Ірына Дзьмітрыеўна Старцава.

Сутнасьць мэтаду заключаецца ў тым, што тут лечаць словам. Лекар дае пацыенту "сэнсавы код" і словы яго ў памяці хворага пачынаюць новае жыцьцё. Яны займаюцца своеасаблівай мабілізацыяй энэргіі псіхатэрапэўтычнага ўзьдзеяньня. І такім чынам зьнікае цяга да сьпіртнога або паленьня.

Трэба зазначыць, што звычайныя мэтады лекаваньня засноўваюцца на звароце да ўмоўных рэфлексаў, але ж яны даволі хутка затухаюць. Шмат хто з нарколагаў і псіхатэрапэўтаў дамагаюцца толькі аднае мэты — выклікаць агіду да гарэлкі і цыгарэтаў. Але ж агіда — пачуцьцё непрыемнае і жыць з ім даволі няўтульна. Мэтад жа Даўжэнкі не закранае ніякіх камфортных пачуцьцяў, папросту пасьля сеанса зьяўляюцца абыякавыя адносіны да сьпіртнога, цыгарэтаў ці тлустай стравы.

Абавязковай умовай для пасьпяховага лекаваньня неабходна шчырае жаданьне самога хворага, а не, як гэта часам здараецца: па загаду цешчы альбо жонкі. Перад сеансам устанаўліваецца пэўны тэрмін, калі пацыент не павінен ужываць ні кроплі сьпіртнога і не выпаліць ніводнай цыгарэты. Акрамя таго, пэўны час забараняецца прымаць якія-небудзь лекі (таблеткі, парашкі, уколы і г. д.). І нарэшце падчас лекаваньня хворы павінен абавязкова дапамагаць лекару.

Зьнешне здаецца ўсё тут вельмі проста, без асаблівых складанасьцяў і намаганьняў. Аднак я неаднойчы назіраў, як доўга пасьля сеанса ўзнаўляюць свае сілы ўрачы і заўсёды пры гэтым зьдзіўляўся, адкуль бярэцца моц быць вясёлымі і бадзёрымі з падчас вельмі «цяжкімі» хворымі.

Мэтад Даўжэнкі ўжо даўно прызнаны ў сьвеце і беларускія лекары С. Л. Данская і І. Д. Старцава неаднаразова, як вядомыя спэцыялісты, запрашаліся ў замежныя краіны, дзе бралі ўдзел у навуковых канфэрэнцыях і сімпозіюмах. Дарэчы, на тэрыторыі былога Саюза больш прагрэсіўнага мэтаду лекаваньня ад алкаголю, паленьня, залішняй вагі не існуе. Згодна статыстыцы, дзякуючы

**(Працяг на 8-й стар.).**





# *КАНФЭСІІ*

## Мясцовыя праблемы высокай музыкі

Заўжды капэльныя калектывы лічыліся згусткам музычнага й духоўнага жыцьця грамадзтва. Сучасьнікам добра вядома, якую ролю адыграла ў культурным жыцьці Нясьвіжа знакамітая капэла князёў Радзівілаў. Ня менш паўплывала на духоўнае жыцьцё Слоніма капэла, створаная Міхалам Агінскім. Шмат рабілі на культурнай глебе й капэлы князёў Сапегаў на Віленшчыне. Падтрымлівала традыцыі й Гарадзенская капэла, якую напрыканцы XVIII стагоддзя стварыў у Горадні Антоні Тызэнгаўз.

На жаль, большасьць самых яскравых старонак творчасьці Гарадзенскай капэлы страчана для нашчадкаў у часы панаваньня на нашай зямлі спачатку чыноўнікаў расейскай манархіі, а потым нашчадкаў «чырвонага кастрычніка».

Але тыя цемрашальныя часы для нашай зямлі нібыта адыйшлі, і, дзякуючы гэтаму, у 1990 годзе ў Горадні быў адроджаны камэрны аркестр. Тым самым быў закладзены падмурак будучай капэлы. Малады калектыў адразу ж распачаў канцэртную дзейнасьць, а ў хуткім часе, у дадатак да інструмэнтальнага калектыву была створана вакальная група. Каб забясьпечыць матэрыяльную частку, са жніўня 1992 года Гарадзенская капэла пачынае працаваць як дзяржаўнае малое прадпрыемства.

Якія якасныя перамены адбыліся за год існаваньня калектыву як самастойнай адзінкі? Кіраўнік капэлы Андрэй Бандарэнка распавядае:

— Пасьля таго, як капэла распачала сваю творчую дзейнасьць, паўстала пытаньне аб фінансаваньні. З гэтай нагоды Гарадзенскі гарвыканкам дазволіў нам займацца камэрцыйнай дзейнасьцю.

**— І як вашыя посьпехі ў камэрцыі?**

— Хіба ж могуць людзі, якія не вучыліся гандлярскай справе, якія ня маюць аб ёй нават агульнага ўяўленьня, бо ўвесь свой вольны час аддаюць творчасьці, весьці камэрцыйныя справы? Паспрабаваўшы ўсяго адзін раз, мы зразумелі, што гэта ня нашая справа.

**— Але ж як дзяржаўнае прадпрыемства вы плоціце падаткі.**

— Гэта праўда. Разьлічваючы на тое, што камэрцыя будзе прыносіць прыбытак, з якога можна будзе выдзяляць сродкі для фінансаваньня дзейнасьці капэлы, мы не ўлічылі, што ў выніку банкруцтва камэрцыйнай ідэі нам у спадчыну застануцца падаткавыя абавязацельствы дзяржпрадпрыемства. Зараз ужо ўзьнята пытаньне аб перарэгістрацыі нашага МП у прафэсійную капэлу, якая будзе займацца толькі культурна-асьветніцкай дзейнасьцю.

**— Калі такое адбудзецца, на якія сродкі будзе існаваць ваш калектыў?**

— Па-першае, гэта платныя канцэрты капэлы. Вопыт папярэдніх выступленьняў паказвае, што ў Горадні ёсьць шмат людзей, якія аддаюць перавагу клясічнай, духоўнай музыцы. Мы за час існаваньня далі ў Горадні каля 60-ці канцэртаў і залі заўжды былі поўнасьцю запоўнены.

**— Можа крыху падрабязней пагаворым пра вашую творчую дзейнасьць!**

— Першыя свае канцэрты мы далі для дзяцей Горадні. Каб пашырыць геаграфію канцэртаў, сёлета плануем шэраг выступленьняў у месцах, дзе людзі пакутуюць ад чарнобыльскай катастрофы. Спадзяёмся, што духоўная музыка хоць крыху дапаможа ім перажываць гэтую бяду.

**— Ці былі вы на гастролях за мяжой?**

— Пакуль што толькі ў Польшчы паблізу Чанстахова на фэстывалі духоўнай старадаўняй музыкі. Зараз зьбіраемся ехаць у Нямеччыну таксама на фэстываль старадаўняй музыкі. Рыхтуем адмысловую праграму з твораў беларускай царкоўнай музыкі. Ёсьць жаданьне стварыць умовы для арганізацыі і сталага правядзеньня гарадзенскага фэстывалю. Гэта б адрадзіла перарваныя часам і гісторыяй гарадзенскія капэльныя традыцыі. Але на гэта пакуль што не стае сродкаў.

**— Колькі вы атрымліваеце грошай за адзін канцэрт?**

— Сакрэту тут няма — ад 5 да 15 тысяч рублёў.

**— Гэтага хапае вашаму калектыву?**

— Безумоўна, гэтага мала, але капэле крыху дапамагае гарвыканкам. Ён плоціць яе ўдзельнікам па 0,5 стаўкі. Праўда, грошы гэтыя мы атрымліваем раз на тры месяцы.

У нас адзінае выйсьце — атрымліваць датацыі ад дзяржавы. Зразумейце, высокае некамэрцыйнае мастацтва заўжды патрабуе падтрымкі. І чым больш да нас будзе ўвагі гарадзенскіх уладаў, тым больш з нашага боку будзе аддачы. Канечне, няблага было б знайсьці фундатара з ліку мясцовых прадпрыймальнікаў, стала атрымліваць ад яго сродкі. За гэта мы маглі б частку білетаў бясплатна аддаваць яму для разьмеркаваньня. Час аматарства мінуў. Каб узьняцца на новую, больш высокую ступень у творчасьці, патрэбны грошы. Для гэтага ў Горадні створаны дабрачынны фонд з рахункам у Белбізнэсбанку г. Горадні, нумар разьліковага рахунку 601 434 МФО 152 101. На гэты рахунак можна дасылаць сродкі, але неабходна зрабіць удакладненьне, што гэтыя сродкі пералічаны на дабрачынны фонд Гарадзенскай капэлы. Калі мы зможам існаваць, то Горадня з цягам часу зойме сваё пачэснае месца сярод музычных цэнтраў Эўропы.

**Размаўляў Г. АСТРОЎСКІ.**

---

Нікіцін, акрамя таго ў склад ураду ўвайшлі ў якасьці міністра сельскай гаспадаркі й нарыхтоўкі — прадстаўнік грамады Крымскіх немцаў-каляністаў, на пасаду сакратара ўраду Сулькевіч назначыў армяніна Налбандава. Створаны гэнэралам Сулькевічам урад насіў кааліцыйны характар з дастатковым уплывам мусульман для выпрацоўкі найбольш істотных пастаноў. Пасьля перабудовы ўнутры габінэта прэм'ер Сулькевіч, а таксама Ахматовіч, Сэйдамэт, Фрыман, Нікіфараў, Нікіцін захавалі свае пасады, у той жа час на пасаду міністра сельскай гаспадаркі быў прызначаны Крымскі татарын Мустафа Мырза Кіпчыцкі, адукацыі — гэнэрал Аляксандр Мількоўскі, нарыхтоўкі — паляк Данброва, дзяржаўнай маёмасьці — беларускі татарын Багушэвіч. Прэм'ер ураду гэнэрал Сулькевіч праводзіў палітыку узмацненьня незалежнасьці Крыма.

25 чэрвеня 1918 года гэнэрал Сулькевіч сфармаваў урад. У дэклярацыі ён зрабіў заяву, што лічыць галоўнай мэтай абарону самастойнасьці Крымскага паўвострава да стабілізацыі міжнароднага становішча. Ва ўрадзе Сулькевіч спрабаваў склікаць Крымскі сойм. Падтрымліваючы аўтаномію Крымскіх татар ў рашэньні рэлігійных і культурных традыцый, працуючы ў кантакце з Крымска-татарскім парлямантам (Курултаем) і яго камісіямі, гэнэрал Сулькевіч адначасова сьцьвярджаў, што дзяржаўныя пытаньні першаснай значнасьці, якія тычыліся палітычнай будовы Крыма, павінны вырашацца Соймам Крыма. Паколькі для скліканьня Сойма неабходны час, гэнэрал Сулькевіч асабіста выдае шэраг пастаноў, у тым ліку аб Крымскім грамадзтве, забароне іншаземцам набываць зямлю, уласьнікамі якой зьяўляліся крымскія грамадзяне, аб вакуфах (вакуфныя землі былі адабраны з дзяржаўнага кіраваньня й перададзены камісіі па рэлігійных пытаньнях татарскага парляманту), аб арганізацыі Сэната й апэляцыйнага зьезду, аб рээміграцыі (вялікая колькасьць крымскіх татар пад прымусам ураду Расейскай імпэрыі эмігравала ў Турцыю), аб заснаваньні асобных міністэрстваў і г. д.

У час прэм'ерства гэнэрала Сулькевіча ў Крыме быў заснаваны унівэрсітэт у Сымфэропалі. У той жа час фармаваньне ўзброеных частак, якое пачаў гэнэрал Сулькевіч, сустрэла сур'ёзныя забароны з боку нямецкага камандаваньня (гэнэрал Кох) у Крыме, пасьля чыіх захадаў войска Крыма складвалася з невялічкага атраду жаўнераў. Гэнэрал Сулькевіч працуе ў накірунку распрацоўкі шэрагу дэмакратычных законаў для разбуранага грамадзянскай вайной Крыма. Сулькевіч лакалізуе непаразуменьні паміж татарамі й грэкамі, якія ўзьніклі пад час бальшавіцкай навалы. Не прызнаючы гегемоніі аднаго народа над другім, гэнэрал Сулькевіч намагаецца зфармаваць добрыя адносіны паміж народамі шматнацыянальнага Крыма (татары, украінцы, рускія, грэкі, немцы, караімы, палякі, армяне), якія б існавалі на ўзаемапавазе. Менавіта таму ў зфармаваны ім габінэт Міністраў былі ўключаны прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў.

Адначасова ворганы кіраваньня фармаваліся па нацыянальнай прыналежнасьці, на пасады кіраваньня паветам, каманьдзіра корпуса памежнай аховы, камісараў паліцыі, старшынь ворганаў самакіраваньня прызначаліся мусульмане, сярод якіх быў значны працэнт беларускіх татар.

**(Працяг у наступным нумары).**

---

## У апазыцыі да праваслаўя

Хаця Канстытуцыяй СССР 1977 году й была прызнана за грамадзянамі свабода веравызнаньня й прадугледжаны матэрыяльныя й прававыя гарантыі яе ажыцьцяўленьня, легальная дзейнасьць арганізацыі, думка стварэньня якой узьнікла ў А. В. Фіськова яшчэ ў 1982 годзе, была б немагчымай, бо не адпавядала існаваўшым канонам. І толькі ў 90-м годзе ажыцьцявілася яго мара: была зарэгістравана Гарадзенская хрысьціянская місія «Добрая вестка», старшынёй якой ён стаў. Спачатку ў склад гэтай грамадзкай незалежнай арганізацыі ўваходзілі 20 чалавек, а за два з паловай гады колькасьць яе членаў павялічылася да 200. Сярод іх большую частку складае моладзь.

Пра мэту дзейнасьці «Добрай весткі» А. Фіськоў сказаў наступнае: «У Горадні шмат вернікаў, і мы дзейнічаем, каб аб'яднаць хрысьціян. Каталіцызм і праваслаўе гістарычна недасканала трактуюць тое, што напісана ў Біблії. Акрамя таго, сьвятары й ксяндзы парушылі адзін з запаветаў: «Не забі», калі бласлаўлялі на гвалтоўныя дзеяньні».

У іх няма супрацьпастаўленьня простым вернікам. У сваёй дзейнасьці вернікі кіруюцца толькі Бібліяй, яны не прызнаюць догм і паданьняў, характэрных для каталіцтва.

Яны не носяць нацельных крыжоў, бо, як сказаў А. Фіськоў, «Крыж — гэта феціш. Атрымліваецца, што людзі зьвяртаюцца да Бога праз пасрэдніка». У членаў «Добрай весткі» «няма культа Дзевы Марыі, сьвятых гістарычных асоб, ікон, бо, на думку Фіськова, «Бога нельга намаляваць, Ён — дух». Галовай царквы яны лічаць самога Бога. Колькасьць таінстваў зьведзена да двух (воднага хрышчэньня й прычашчэньня), і робяць іх толькі над дарослымі, тлумачачы іх сэнс. Пакланяюцца яны толькі Богу, у адрозьненьне ад каталікоў і праваслаўных, якія нахіляюцца таксама перад сваімі сьвятарамі. Па словах А. Фіськова «пакланяюцца яны толькі Богу, а не людзям, бо толькі Ён можа адпусьціць грахі». Малітвы вернікі не завучваюць, а бяруць толькі іх сэнс і чытаюць экспромтам. Не прызнаюць яны рэлігійных хрысьціянскія сьвяты, бо ў Біблії не сказана, калі, напрыклад, нарадзіўся Ісус Хрыстос. Але ж, улічваючы рэаліі, напярэдадні сьвяткаваньня Каляд і Вялікадня па каталіцкаму й праваслаўнаму каляндарам гавораць пра іх, але не сьвяткуюць, як вернікі іншых накірункаў хрысьціянства, бо лічаць іх рытуалы безсэнсоўнымі.

Члены «Добрай весткі» праводзяць пропаведзі ў Гарадзенскай турме, займаюцца дабрачыннай дзейнасьцю, напрыклад, у Чырвоным Крыжы быў узяты сьпіс маламаёмасных гараджан, 50-ці з іх у мінулагоднюю зіму і 30-ці ў сёлетнюю была дадзена магчымасьць атрымліваць бясплатныя абеды.

Зараз на беразе Нёмана вядзецца будаўніцтва храма «Добрай весткі» (месца, дзе ён павінен знаходзіцца, як і месца першай пропаведзі, А. Фіськоў убачыў у сьне) з залай на 2000 месцаў, на што затрачана ўжо восем мільёнаў рублёў, якія пералічаны рознымі малымі прадпрыемствамі й кааператывамі, ды мільён рублёў атрыманы ў якасьці ахвяраваньняў. Ён ня будзе ні зьнешне, ні ўнутры падобны на каталіцкія ці праваслаўныя культавыя пабудовы, а крыж на даху будзе падкрэсьліваць, што гэта сучасны хрысьціянскі храм. Вакол яго плануецца пабудова відэазалы, дзе будзе ажыцьцяўляцца прагляд стужак на біблейскую тэматыку, здымак з выступленьняў заходніх прапаведнікаў, чытальнай залы, кавярні, крамы, гатэляў, акрытай эстрады, дзе кожны зможа сьпяваць. Свой храм «Добрая вестка» будзе даваць магчымасьць выкарыстоўваць для дабрычынных канцэртаў. Усе прапаведнікі працуюць на грамадзкіх пачатках, і толькі пасьля пабудовы храма яны будуць за сваю работу атрымліваць зарплату.

Пакуль вернікі кожную нядзелю зьбіраюцца ў Палацы тэкстыльшчыкаў, дзе пазнаюць вучэньне Бога, сьпяваюць песьні, у якіх славяць Яго й проста маюць зносіны паміж сабой.

**А. ДУК.**

---

## У падтрымку мусульман

Днямі ў рэдакцыю «Пагоні» завітаў духоўнік гарадзенскіх лютэран спадар У. Сакаловіч, каб зрабіць заяву, у якой сцьвярджаецца, што гарадзенская грамада вернікаў-лютэран падтрымлівае справярдлівыя захады мясцовых мусульман па аднаўленьню бліз вёскі Ласосна мусульманскай мячэці.

